*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі! Францішак БАГУШЭВІЧ*




# Наша слова

№ 35(45) • 16—22 КАСТРЫЧНІКА 1991 г. • Штотыднёвік Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны
Кошт 10 кап. (па падпісцы — 5 кап.)

## Поступ тыдня

**УЧОРА АДКРЫЛАСЯ ЧАРГОВАЯ СЕСІЯ БЕЛАРУСКАГА ПАРЛАМЕНТА. СЯРОД МНОГІХ ПЫТАННЯЎ, ВЫНЕСЕНЫХ НА РАЗГЛЯД ДЭПУТАТАЎ, НЕ БУДЗЕ ТОЛЬКІ ТЫХ, ЯКІЯ АБАРАНІЛІ Б ПРАВЫ ПРАЦОЎНЫХ.**

**І гэта ў час нечуванай інфляцыі, беспрацоўя, пустых магазінаў. Пэўна, таму прафсаюзы прапанавалі правесці перад Домам урада сустрэчу працоўных з народнымі дэпутатамі. Цікава, няўжо такая новая форма прафсаюзнай актыўнасці дасць нейкі вынік? ЦІ НЕ СУМНЕННЕ Ў ГЭТЫМ НАДШТУРХНУЛА ПРАФСАЮЗ РАБОТНІКАЎ АЎТАМАБІЛЬНАГА І СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧАГА МАШЫНАБУДАВАННЯ ПАПЯРЭДЗІЦЬ УРАД АБ МАГЧЫМАСЦІ ТРАДЫЦЫЙНАЙ ДЛЯ МНОГІХ ЗАБАСТОЎКІ.**

**НА СУМНА вядомай усяму свету Чарнобыльскай АЭС зноў адбылася аварыя. А нам даказваюць, што нават на звычайных атамных станцыях можна абысціся без надзвычайных здарэнняў...**

**У ДОМЕ ЛІТАРАТАРА адбыўся першы арганізацыйны з'езд Беларускага згуртавання вайскоўцаў (БЗВ). Удзел у яго рабоце прынялі звыш ста дэлегатаў ад воінскіх калектываў і суполак БЗВ.**

**Галоўнай праграмнай мэтай згуртавання абвешчана прапаганда ідэі стварэння нацыянальнага войска. Старшынёй БЗВ абраны падпалкоўнік Мікола Статкевіч.**

## Васіль Быкаў: час імперыі мінуў

*Сустрэча прыхільнікаў беларускага Адраджэння з Васілём Быкавым у клубе «Спадчына» працягвалася больш за тры гадзіны.*

20 лютага 1985 года ў Менску распачаў працу клуб «Спадчына» — адно з першых пасля Беларускай хаткі» нефармальнае аб'яднанне беларусаў, розных па ўзросту і прафесіі, але блізкіх сабе па духу. Аб'ядналіся ўсе тыя, хто вобмацкам шукаў дарог для ўратавання Бацькаўшчыны, каму балела, як і сто гадоў назад, справа беларушчыны, занядбаны стан нашага народа, яго глыбокі летаргічны сон, навеяны жудаснымі падзеямі цэлага стагоддзя. З'ява на першы погляд стыхійная, у сапраўднасці ж заканамерная, бо ўзнікненне «Спадчыны» абумоўлена задачамі кансалідацыі і вызначэння сіл нацыянальна свядомай беларускай інтэлігенцыі, якая ўжо прадчувала, што неўзабаве стане на чале вялікай бітвы за Адраджэнне роднай зямлі. Нездарма з клуба «Спадчына» выйшлі кіраўнікі будучых суполак «Талака», «Тутэйшыя», «Світанак», «Золак», многія змагары Беларускага Народнага Фронту «Адраджэнне».

Наведвалі клуб і выступалі ў ім пісьменнікі, мастакі, вучоныя, прадстаўнікі беларускага замежжа, а менавіта, Янка Брыль, Адам Мальдзіс, Анатоль Грыцкевіч, Генадзь Каханоўскі, Кастусь Тарасаў, Генадзь Штыхаў, Алег Бембель, Мікола Ермаловіч, Іосіф Юхо, айцец Аляксандр Надсан, спявак Данчык і яго маці Юлія Андрусішына і многія, многія іншыя, менш славутыя, але з тым самым клопатам і болем у сэрцы.

26 верасня г. г. адбылася сустрэча сяброў згуртавання і гараджан з народным пісьменнікам Беларусі Васілём Быкавым. На пачатку прагучала песня-гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі». Справаздачу з гэтай сустрэчы прапануем чытачам.

**Васіль БЫКАЎ.** Сёння такая сустрэча не можа абысціся без гаворкі на палітычныя тэмы. І на рабоце, і дома — усюды палітыка. Гадоў 10 назад мне давялося быць на Кубе, і я тым звярнуў увагу на тое, што пасля працы кубінцы амаль кожны дзень стаялі на мітынгах. Выступалі розныя людзі, але найперш начальства. Кубінцы цярпліва стаялі і слухалі з адной мэтай, каб даведацца, як ім жыць далей, а жыць ім было даволі цяжка.

Цяпер тое ж самае адбываецца і ў нас. Гаворым пра палітыку шмат. Але ад нашых гаворак справа не змяняецца, а наадварот — жыццё ўсё горшае, і наперадзе нас чакаюць вялікія выпрабаванні і вялікая бяда. Тут я хацеў бы сказаць вось пра што: людзі павінны ведаць і разумець элементарныя рэчы, таму што без разумення іх цяжка выбраць правільную пазіцыю. Першае: Савецкі Саюз як дзяржава распаўся не таму, што на яго падзейнічалі нейкія злыя сілы або асобы. Саюз распаўся таму, што ён існаваць далей не мог, бо вычарпаў усе свае магчымасці. І тым не менш тут няма ніякай заслугі ні камуністычнай партыі, ні Гарбачова, ні народа, ні дэмакратыі — у гэтым гістарычная заканамернасць. Гэта трэба ўсім ведаць і з гэтым лічыцца. Час імперыі мінуў. Суверэнітызацыя, якая стала папулярнай апошнім часам,— неабходнасць, гэта спроба паратунку. Шэсць гадоў перабудовы нас пераканалі: ўратавацца ўсім разам, як нам абяцалі партыйныя агітатары, немагчыма. Стан эканомікі, палітыкі такі, што ўратавацца можна толькі паасобку, і кожная нацыя пачала ратавацца па свайму разуменню.

Беларусь да разумення ратавацца дайшла вельмі няхутка, далёка не першая, магчыма, нават апошняя. Наша кіраўніцтва, і ў першую чаргу партыйнае, усяляк супраціўлялася. Аднак жа, гэтае супраціўленне аказалася безвыніковым, бо ўсё-такі трэба было набыць незалежнасць. І гэта правільна.

Зірніце на гістарычны вопыт іншых народаў. Кожная нацыя ладзіць жыццё сваёй адасобленай сям'ёй. Гэта не значыць, што яна цалкам адасабляецца ад усяго свету. Але свой парадак трэба

*(Працяг на 2-й стар.).*




**Старанным руплiўцам на ніве беларусізацыі зарэкамендавала сябе Святлана Іванаўна Дзейкіна (на здымку ў цэнтры). Працуе яна настаўніцай беларускай мовы і літаратуры ў сярэдняй школе № 54 г. Менска. І канешне ж, душу і сэрца ў справу ўкладае не толькі па службоваму абавязку. Як сведчанне таму — клопаты настаўніцы па стварэнні ў адным з класных пакояў кабінета, прысвечанага Францыску Скарыне.**

Фота А. САСІНОЎСКАГА.

## ПАМЕРЛА ЗОСЬКА ВЕРАС

**Памерла, не счакаўшы ўсяго года да свайго веку. Нарадзіўшыся ў верасні 1892 года, яна сваім жыццём да якіх толькі гістарычных катаклізмаў не мела дачынення! А лёсы ёю спазнаныя і зразуметыя — Максім Багдановіч, Уладзіслаў Галубок, Ядвігін Ш., Гальяш Леўчык... Памерла, пакінула нас старэйшая беларуская пісьменніца, багацейшы памяццю сваёй архіварыус зямлі беларускай, проста чуйны да роднага слова чалавек. Нізкі ёй паклон на зямное развітанне ад усіх беларусаў.**

**Рэспубліканская Рада ТБМ імя Ф. Скарыны,**
**Рэдакцыя газеты «Наша слова».**

## Сталі фундатарамі

Газета «Піянер Беларусі» аб'явіла віктарыну «Зоркі Белае Русі». Да ўдзелу запрашаюцца школьнікі — усе, хто хоча больш дазнацца пра імёны і подзвігі нашых знакамітых продкаў, наогул пра гісторыю Беларусі, навучыцца лепш арыентавацца ў стагоддзях.

Усяго шэсць пытанняў задае «Піянер Беларусі», але, каб знайсці адказы на іх, і сапраўды трэба зрабіць грунтоўнае падарожжа ў мінулае.

Пераможцаў чакаюць незвычайныя прызы. «Піянер Беларусі» падкрэслівае, што іх можна будзе атрымоўваць на працягу ўсяго 1992 года.

А грошы на ўзнагароды выдзяляе рада Таварыства беларускай мовы Савецкага раёна г. Менска — фундатар і натхняльнік віктарыны «Зоркі Белае Русі».

А. К.

## СКАЎТЫЗМ АДРАДЖАЕЦЦА

***Аргкамітэт па арганізацыі Устаноўчага Вальнага Сойму скаўцкага руху на Беларусі звярнуўся да дзяцей і бацькоў, усіх спадароў нашай Бацькаўшчыны з заклікам адрадзіць скаўтызм.***

У Звароце у прыватнасці гаворыцца:

Вось ужо 84 гады як дзейнічае дзіцячы скаўцкі рух, што зарадзіўся ў Англіі. Ён не з'яўляецца якой-небудзь палітычнай партыяй або арганізацыяй. У яго шэрагах налічваецца 16 мільёнаў сяброў больш чым з 150-ці краін і тэрыторый свету. На рахунку ў скаўтаў шмат карысных і цікавых спраў. Ужо два гады, напрыклад, дзеці Чарнобыля адпачывалі ў скаўцкіх летніках і ў сем'ях замежных равеснікаў.

Традыцыйна скаўтынг трымаецца на трох асноўных прынцыпах: Бог і Бацькаўшчына, добры ўчынак і скаўцкае права. Ён ставіць мэтай духоўнае, інтэлектуальнае, грамадскае, фізічнае развіццё асобы і аб'ядноўвае дзяцей самых розных інтэрэсаў і схільнасцей.

Скаўцкія арганізацыі ў Расіі існавалі да 1919 года. Затым былі распушчаны як «буржазныя» другім з'ездам камсамола, і замест іх сталі насаджацца дзіцячыя камуністычныя арганізацыі. Беларускія скаўты існавалі яшчэ ў Заходняй Беларусі, якая была пад уладай Польшчы, а пасля Другой сусветнай вайны — на чужыне.

Прыспеў час адрадзіць у суверэннай Беларусі скаўтызм, які развіваўся на нацыянальнай аснове, і зарэгістраваць нацыянальную скаўцкую арганізацыю ў штаб-кватэры Сусветнага Скаўцкага Бюро ў Жэневе. Дзеля гэтага неабходна згуртавацца ўсім разрозненым «саюзам», «асацыяцыям», «харугвам», «сябрынам» і «атрадам» у Беларусі і за яе межамі і правесці Устаноўчы Вальны Сойм. Для яго арганізацыі створаны ў Менску камітэт з ліку навукоўцаў, работнікаў народнай адукацыі, бацькоў, кіраўнікоў скаўцкіх фарміраванняў.

Аргкамітэт просіць куратараў настворанных сябрын паведаміць аб сабе ў абласныя аргкамітэты (калі ёсць) або непасрэдна старшыні Алесю Лозку ці сакратару рэспубліканскага камітэта Лідзіі Кулажанка (220072, г. Менск, Ленінскі пр., 66, Скарынаўскі цэнтр, п. 429; тэл. 39-55-91, хатні сакратара — 58-92-42). Пры стварэнні сябрын можна карыстацца часовымі статутамі (гл. «Настаўніцкую газету» ад 13 сакавіка 1991 г. і інш.).

Адначасова паведамляецца рахунак гарадскога бацькоўскага камітэта Менска, куды можна пералічыць грошы для арганізацыі Устаноўчага Вальнага Сойму: 700903 у Менскім гарадскім упраўленні «Менскбізнесбанка», код МФО 400503.

*З рэдакцыйнай пошты*

## У лік 12-ці

Газету «Наша слова» я атрымоўваю з выхаду першага нумара. Выпісваю сам і прапагандую сярод настаўнікаў і вучняў. Абмяркоўваем многія публікацыі. Газета дапамагае ў штодзённай працы па адраджэнні і вывучэнні роднай мовы, гісторыі і культуры.

Хочацца коратка выказаць свае думкі пра артыкул Сяргея Чыгрына «Каму патрэбна рэзервацыя?», які быў надрукаваны ў № 10. Аўтар яго смела, абгрунтавана, цікава і крытычна, у духу патрабаванняў часу расказаў аб тым, як у старажытнабеларускім Слоніме ідзе адраджэнне роднай мовы і культуры.

Лічу, што артыкул Сяргея Чыгрына можна ўключыць у лік 12 лепшых матэрыялаў года, што надрукаваны ў «Нашым слове» г.г.

П. М. МАРЦІНОЎСКІ,
выкладчык беларускай мовы і літаратуры, намеснік дырэктара Дзярэчынскай сярэдняй школы Зэльвенскага раёна, кіраўнік літаб'яднання «Зоры над Зальвянкай».



## Без ачышчэння не абысціся

Я цалкам згодны з аўтарам «Нашага слова» Яўгенам Заляцуком, што лепей бы Беларусі вярнуць яе самую даўгавечную назву — Літва. Што ж... у парламенце прагаласавалі, не пажадалі толькі рушыць спольшчаную назву — «Мінск». Тым не менш без ачышчэння ад абразы, некалі нанесенай народу, не абысціся. Выдаткі на перайменаванні палохаюць? Дык іх жа можна рабіць больш-менш паступова.

Мікалай КІРСАНАЎ.
г. Санкт-Пецярбург

*Радавод*

# «Литвин-белорусец из Копыси»

***(Нататкі гісторыка-аматара)***

Як жыхар Масквы я, натуральна, цікаўлюся дзейнасцю сваіх «папярэднікаў». Чытаючы даступныя мне матэрыялы, я спаткаўся з незвычайнай праявай: мы выхаваны на падручніках, якія даводзяць, што назва «Белая Русь» ледзь не спрадвечная, толькі не ўвесь край спачатку называўся так.

Але ў тых дакументах Вялікага княства Маскоўскага, што я бачыў, гэта назва сустракаецца ўпершыню ці не ў 1632 годзе, калі «Ондрей Дошуков — шляхтич Белыя Руси» прасіў прыняць яго на вайсковую службу. Вядома, я бачыў не ўсё, але адсутнасць гэтай назвы ў нейкай частцы ўказаў, граматаў, ліставання за доўгі час сведчыць, што яна хутчэй не ўжывалася. Існавала назва «Літва» альбо «Літоўская старана». Адпаведна беларусы пазываліся раней ліцвінамі альбо «літоўскімі людзьмі».

Слова «белорусец» упершыню спаткалася мне ў пратаколе допыту нейкага Мікіткі, сына Грыгор'ева Берңікава: «родом литвин-белорусец из Копыси» (1629 год). З гэтай пары слова пачынае сустракацца: «выходец Мстиславского повету белорусец Степанко Тимофеев» (1633); «белорусец посацкой человек Артюшка Тиханов» (1633); «литовских людей белорусцев Игнашка Григорьев, родом литвин Оршанского повету» (1636) і г. д.

Але што цікава? Мяркуйце самі: «... которые люди литовские учнут приезжать на наше имя на вечную службу, шляхтичи добрые и белорусцы и пашенные и мастеровые добрые ж люди...» (1636); «...литовским людем, которые на твое государево имя учнут приходить в Куреск из литовские стороны белорусцы, мещане и пашенные люди...» (1638); «...и которые литовские люди и белорусцы и пашенные мужики ныне во Брянску живут...» (1649).

Відавочна, што гутарка ідзе не пра нацыю, але пра нейкае саслоўе (на адным узроўні з шляхціцамі, мужыкамі). Звычайна гэта ёсць жыхары гарадоў ды шляхецкія сыны, што пайшлі ў казакі (што значыла ў той час «прафесійныя ваяры»). Напрыклад: «...беларусцы, литовские люди, выходцы мещане», паступіўшыя на маскоўскую службу ў 1640 годзе. Дарэчы, слова «мещане» («горожане») ёсць беларускае.

Але ў хуткім часе гэта назва павольна пачынае азначаць нацыянальнасць: «родом литвин, белорусец, Дубровенского повету крестьянин Федька Аксёнов» (1645), «поляки, черкесы и белорусы пашенные мужики...» (1649). Аднак гэта яшчэ не трывала, бо адначасова блытаюць: «поляк-могилевец» (1643); «...поляков Федьку да Матюшку да Микитку Матвеевых детей Микулаевых из Полодцку» (1647).

Назва «беларус» у якасці назвы нацыі канчаткова ўсталявалася толькі па гаротнай вайне 1654—1667 гадоў. Прыгадаем тыя падзеі. Царскае войска захапіла на доўгі час Віцебск, Полацк, Воршу, Барысаў, Дуброўну, Копысь, Шклоў, Магілёў, Быхаў, дайшло да Вільні, Гародні, Пінска. Рэч Паспалітая не магла дапамагаць літоўскім гарадам, бо змагалася адначасова яшчэ і са шведамі, якія захапілі ажно Варшаву і Познань, ды з Хмяльніцкім, які быў у хаўрусе з крымчакамі. Паміж іншым, Швецыя ў 1655 годзе дамовілася з Вялікім Княствам Літоўскім аб злучэнні. Гэта вельмі напалохала як Маскву, так і Варшаву, якія падпісалі ў 1656 годзе ў Вільні пагадненне аб прыпыненні вайны між сабой і аб супольных дзеяннях супраць Швецыі.

*(Працяг будзе).*

Алесь ДРАЕНКАЎ.

## Пра падпіску на 1992 год

Паважаныя спадары! Зараз, калі ідзе падпіска на перыёдыку 1992 года, кожны з нас стаіць перад выбарам: якім газетам і часопісам аддаць перавагу. Зразумела, што чытачы вашай газеты будуць імкнуцца падпісацца толькі на чыста беларускамоўныя выданні, каб не трапіць зноў у такую сітуацыю, у якой у гэтым годзе апынуліся чытачы «7 дней». Але вельмі цяжка арыентавацца ў моры газет і часопісаў, якіх у апошні час стала значна больш. Сярод новых выданняў шмат ёсць цікавых, але многія не ведаюць аб іх існаванні.

Дык можа вас, паважаныя «нашаслоўцы», папрасіць вось аб чым. Надрукуйце, калі ласка, спіс беларускамоўных выданняў, якія ўключаны ў каталогі на 1992 год. Разам з назвай — індэкс, перыядычнасць і заснавальніка. Нядрэнна было б колькі слоў напісаць аб тым, што тое ці іншае выданне сабою ўяўляе.

Мне здаецца, што з дапамогай гэтага спіса шмат хто з вашых чытачоў выбярэ сабе што-небудзь.

Поспехаў вам у працы і дзякуй за цікавую газету!

Вадзім РАМАНЧЫК,
студэнт БДУ.

***АД РЭДАКЦЫІ.** Дзякуй за прапанову, шаноўны спадар Вадзім, але даваць рэкамендацыі мы ўсё ж не адважваемся. Спіс беларускамоўных выданняў, на якія можна падпісацца, ёсць у паштовых аддзяленнях, а вось што канкрэтна выбраць — тут кожны, мяркуем, вырашыць сам адпаведна ўласных патрэб і папярэднімі ўражаннямі ад знаёмства з канкрэтнымі выданнямі. Спадзяёмся, што чытачы не забудуць падпісацца на 1992 год і на «Наша слова»!*

*ПЫТАННЕ-АДКАЗ*

***Паведаміце, калі ласка, як можна падпісацца на часопіс «Унія» і газету «Навіны» Беларускага Народнага Фронту «Адраджэнне».***

А. КАРПЕНКА.
г. Менск.

Газета «Навіны» Беларускага Народнага Фронту «Адраджэнне» ўключана ў рэспубліканскі каталог. Індэкс 63895. Кошт гадавой падпіскі 14 руб. 16 кап. У рэспубліцы падпіска прымаецца ў любым аддзяленні сувязі і «Саюздруку». Падпіска за межы рэспублікі афармляецца непасрэдна ў рэдакцыі. Дзеля гэтага неабходна выслаць на адрас рэдакцыі адвольную суму грошай. На адрыўным талоне паштовага перавода павінен быць разборліва ўказаны адрас падпісчыка і колькасць экземпляраў, якія ён хоча атрымліваць. Пасля таго як дасланая сума будзе вычарпана, рэдакцыя паведаміць падпісчыку пра гэта, і ён можа спяніць або працягнуць падпіску далей.

А. СУША,
рэдактар «Навін» БНФ «Адраджэнне».

Часопіс «Унія» зарэгістраваны на прыватную асобу, але не ўключаны ў падпісны каталог. Таму падпісацца на яго немагчыма. Аднак рэдакцыя прымае заяўкі па адрасу: 220050, г. Менск, абанентная скрыня № 224 і дасылае часопіс чытачам накладной платаю.

Ірына Абламейка,
рэдактар часопіса «Унія».

*Чыталі?*

# «У МІНУЎШЧЫНЫ СЛАЎНЫМ КУРГАНЕ»

Пабачыў свет чарговы — чацвёрты ў гэтым годзе — нумар «Спадчыны». Першая старонка часопіса, які становіцца ўсё больш папулярным у беларускіх аматараў краязнаўства, знаёміць з партрэтам Кацярыны Слуцкай (1580 г.). Запоўняць прабелы ў нашай гістарычна-мастацкай адукацыі і астатнія рэпрадукцыі часопіса, якія падмацаваны змястоўным артыкулам Барыса Крэпака «Віцебскі авангард» і аповядам Вячаслава Дубінкі пра Будслаўскі касцёл Узнясення Маці Божай — «Вяртанне святыні».

Аматары ж мастацкага слова перш за ўсё, відаць, звернуць увагу на паэму Лявона Случаніна «Рагнеда»:

Гэй!
Крывіцкі народ —
Беларусі сыны,
У Мінуўшчыны
Слаўным кургане
Несупынна гудуць
Вечавыя званы,
На вялікае
Клічуць змаганне.
Годзе
Крыўду цярпець!..

Упершыню паэма была надрукавана ў «Менскай газеце» падчас фашысцкай акупацыі. У 1944 годзе «Рагнеда» ўбачыла свет у Вільні асобнаю кніжкай. Аўтар жыве ў Салігорску, дзе і сёння займаецца творчай працай. Нядаўна Лявону Раманавічу Шпакоўскаму (сапраўднае прозвішча Лявона Случаніна) споўнілася 75 гадоў. Юбілей пісьменніка адзначалі толькі яго родныя.

А адкрываецца чацвёртая кніжка «Спадчыны» артыкулам Вінцука Вячоркі «Правапіс — люстэрка гісторыі». Рэдакцыя часопіса дадае на завяршэнне цікавай і арыгінальнай публікацыі: «Спадзяемся працягнуць гутарку пра гісторыю правапісу на старонках «Спадчыны». Адметная праца, пададзеная ў гэтым жа нумары, — артыкул Сымона Брагі «Доктар Скарына ў Маскве», які друкуецца паводле зборніка «Запісы», выдадзенага ў Мюнхене ў 1963 годзе Беларускім Інстытутам Навукі і Мастацтва.

Пад рубрыкай «Вяртанне да чытача» надрукавана даследаванне А. Цьвікевіча «Западно-русская» школа і яе прадстаўнікі». Традыцыйна змяшчае часопіс і інтэрв'ю па пытаннях нацыянальнай спадчыны. Гэтым разам намеснік галоўнага рэдактара часопіса Кастусь Тарасаў гутарыць з нядаўнім біскупам Менскім для каталікоў Беларусі Тадэвушам Кандрусевічам.

Сустрэча з кожнай кніжкай адметнага, выразна нацыянальнага беларускага часопіса, што прыйшоў на змену «Помнікам гісторыі і культуры Беларусі», падштурхоўвае вось да якіх развагаў: усё ж нешта страчана. І ў прыватнасці магчымасць кансалідацыі, згуртавання краязнаўцаў-практыкаў. Чаму б «Спадчыне» не адводзіць некалькі старонак публікацыі матэрыялаў з месцаў?..

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.

*Праверце дакладнасць афармлення абанемента*

**На абанеменце павінен быць прастаўлены адбітак касавай машыны. Пры афармленні падпіскі (пераадрасоўкі) без касавай машыны на абанеменце ставіцца адбітак каляндарнага штэмпеля аддзялення сувязі. У гэтым выпадку абанемент выдаецца падпісчыку з квітком аб аплаце кошту падпіскі (пераадрасоўкі).**

**Для афармлення падпіскі на газету ці часопіс, а таксама для пераадрасоўкі выдання бланк абанемента з даставачнай карткай запаўняецца падпісчыкам чарнілам, разборліва, без скарачэнняў, у адпаведнасці з умовамі, выкладзенымі ў каталогах «Саюздруку». Запаўненне месячных клетак пры пераадрасоўцы выдання, а таксама клеткі «ПВ-МЕСЦА» робіцца работнікамі прадпрыемстваў сувязі і «Саюздруку».**

*Тэрмін падпіскі на газету «НАША СЛОВА» на 1992 год заканчваецца 31 кастрычніка. Засталося два тыдні на роздум. Наш індэкс 63865.*

# Родная старонка



Святым называюць мясцовыя жыхары вялікае возера Хатом'е паблізу вёскі Шапялевічы Круглянскага раёна (на здымку). І не толькі таму, што па народнаму паданню на дне яго стаіць затопленая некалі царква, а больш дзякуючы цудадзейным якасцям вады, якая, кажуць, лечыць скураныя захворванні. Чуткі пра лекавую ваду святога возера прываблiваюць на яго берагі многа людзей. Можа зацікавяцца ім і спецыялісты?

Фота Івана ЮДАША (БЕЛТА).

## Лякарня чараўніцы Потахі

**АЖЫНА ШЫЗАЯ.** Народ прызнае за ажынай вялікае лекавае значэнне і лечыць ёю катары кішак і іншыя кішэчныя недамаганні, у тым ліку і паносы з крывёю. Акрамя таго, ажына лічыцца супрацьгнiласным, кроваачышчальным сродкам, яна паляпшае перыстальтыку кішак. Добрае ўздзеянне аказвае прыём па 3 кубкі (2/3 шклянкі) на дзень напару лісця ажыны (2 часткі) разам з кветкамі наготак (1 частка). Вельмі часта гэты просты народны сродак дапамагаў лепей усялякіх іншых.

**РУТА ПАХУЧАЯ.** Ва ўсіх славян назва аднолькавая. У народзе ўжываецца як сродак, які супакойвае боль пры спазмах страўніка, узбуджае апетыт і нервы, ветрагонны і абартыўны.

Пры моцных прылівах крыві да галавы («замарачэнні», як гавораць у народзе), пры адсутнасці апетыту і нястраўнасці, а таксама пры іншых відах страўнікавых недамаганняў прымаюць 3 разы на дзень па 10 кропель спіртавога настою руты на лыжцы вады ці кавалачку цукру. Настой рыхтуюць так: 1 частка соку са свежага размякчонага лісця руты заліваюць шасцю часткамі спірту, ставяць на 10 дзён у цёмнае месца, пасля чаго працэджваюць, адціскаюць і зноў працэджваюць.

Для ўзбуджэння апетыту выпіваюць па 3 шклянкі на дзень напару з наступнай сумесі: лісця руты — 2 часткі (усяго па аб'ёму), парэзаных каранёў дзягілю лясногa — 1 частка, лісця шалфею — 1 частка, травы цвінтарэю — 2 часткі; напар з 3 сталовых лыжак сумесі на 3 шклянкі кіпетню.

Пры камянях нырак ужываецца наступная сумесь: 2 часткі лісця руты і 1 частка лісця палыну божага-дрэва. Гэту сумесь суткі замочваюць у невялікай колькасці чырвонага віна (так, каб зрабіць вільготнай), пасля чаго высушваюць на цёплым паветры і расціраюць у парашок. Прымаюць 3 разы на дзень па 2 г парашку на вінную чарку вішнёвага соку.

## Выконваем чытацкі заказ

З захапленнем чытаю кожны нумар «Нашага слова» — і раптам такое расчараванне! Няхай бы гэта зрабілі заiклівыя «Народная газета» і «Добры вечар», але... каб беларуская «Наша слова» змясціла бланк на падпіску на расійскай мове (№ 27)!?

Можа, растлумачыце, шаноўныя, гэтую недарэчнасць? Няблага было б зрабіць гэта не мне асабіста, а ўсім вашым чытачам праз газету.

Маё шанаванне!

Адам ШПАКОЎСКІ.
г. Менск.

Ад рэдакцыі. Выконваючы строгі чытацкі заказ, даём беларускамоўны варыянт бланка. Давялося яго рабіць чарцёжніку, бо ў «Саюздруку» пакуль такіх няма.

## Дыялогі на вясковай лаўцы



— Страшаць народ галадам, страшаць! А каб усё сабраць, што Бог даў, розуму не хапае. Ну, хоць бы ў нас. Бульбачку, мусіць, так і не ахáюць да маразоў. Цехніка зламалася.

— Ну і цехніка! Дзве калкі на калхоз!

— Дык прадсядацель казаў, што велькія грошы даў бы, ды няма сённячы дзе купіць.

— Ці толькі сённячы! Калхознік з бядой, як рыба з вадой.

— Дальбог праўду кажаш. Ля нашага кýста ўсягды пуста.

* * *

— Калі гэта, людзечкі, што наладзіцца? Куды ні кінь — усюды клін. Ні палячыцца толкам, ні адзежы якой справіць, ні на той свет па-людску выправіцца.

— І я во кажу. Праз каторы час гумовых ботаў і кухвайкі купіць не магу. Няма ў чым у хлеў выйсці.

— Табе ў хлеў, а мне да доктара трэба. Дык паверыце, сарочкі свежай не куплю. Да ніткі вынасілася.

— Кіньце, бабы, плакацца! Як усё роўна ад вашых казанняў нешта зменіцца... Ну і пайшло жыццё — прачнуліся і за ныццё.

Учула Любоў ЛАМЕКА.

*І смех і грэх*

*Аляксей НЕНАДАВЕЦ*

### ВАР'ЯЦКІ ВЕРШ

Звар'яцела, звар'яцела —
Д'яблы ночы мае рвуць.
Звар'яцела, звар'яцела —
Здані ў вочы мае пруць.
«Вар'яцтва» В. Аксак.

Няўжо праўда звар'яцела?
Бо ўжо здані ў вочы пруць.
Уся схуднела, пабялела,
Чэрці ў галаву паўзуць.
Звар'яцела! Мілы Божа!
І дрыжу, нібы лісток,
І ўжо нават сон не можа
Супыніць маіх трывог.
Ну, чаму я звар'яцела?
Д'яблы цела маё рвуць,
Ужо б такога й не хацела,
Аж нячысцікі скубуць!
Б'юць, няславяць і катуюць,
Сэрца хілае найперш...
З-за чаго яны лютуюць?
Мо, за гэты д'яблаў верш?

Ф. СП-1

Міністэрства сувязі СССР
«Саюздрук»
АБАНЕМЕНТ на газету / часопіс 63865

«НАША СЛОВА» | Колькасць камплектаў

на 199 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды: (пашт. індэкс) (адрас)

Каму: прозвішча, ініцыялы

ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА

пв | месца | літ. | на газету / часопіс 63865

«НАША СЛОВА»
(найменне выдання)

Кошт: падпіскі ... руб. ... кап.; пераадрасоўкі ... руб. ... кап. | Колькасць камплектаў

на 199 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды: (пашт. індэкс) (адрас)

Каму: (прозвішча, ініцыялы)

## КРЫЖАВАНКА-ПЕРАКЛАД



**Па гарызанталі:** 5. Янтарь. 6. Пойма. 9. Как раз. 12. Индеветь. 13. Жесткий. 14. Колышек. 17. Пряник. 18. Шорник. 21. Сильно ударит. 22. Внимание. 23. Пояс. 26. Предбанник. 27. Лохматый. 28. Загнетка (в печи).

**Па вертыкалі:** 1. Аистёнок. 2. Окорок. 3. Каблук. 4. Тряпичник. 7. Лист. 8. Стыковой. 10. Вовлечение. 11. Умопомрачение. 15. Резной. 16. Спрос. 19. Ушат. 20. Польза, прибыль. 24. Пахарь. 25. Рубец. 29. Кузнец. 30. Керосин.

Падрыхтавала Людміла ШНІП.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

Рэдактар Эрнэст Ялугін
Сябры калегіі: Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Ніл Гілевіч, Уладзімір Дамашэвіч, Алесь Камароўскі, Анатоль Клышка, Алег Куліцкі, Уладзімір Ламека, Уладзімір Содаль, Алесь Траяноўскі, Генадзь Тумаш, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Міхась Шавыркін.

Адказны сакратар Анатоль Сілянкоў.

Наш адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон рэдакцыі: 33-17-83.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі.

Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

МВПА імя Якуба Коласа.
Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка».
Наклад 5.254 паасобнікі. Зак. 2464. Індэкс 74975.